*Супраць Багданкевіча кінулі пажарных (стар. 2)*
*Справа супраць вайсковых пракурораў «лопнула» (стар. 4)*



# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 45.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441

10 красавіка 1996 г. № 26 Кошт свабодны

## У Еўропу – праз «чорны ход»

*Беларускі прэзідэнт імкнецца выкарыстаць любую нагоду, каб пабываць на Захадзе*

**Але факт застаецца фактам: прайшло амаль два гады прэзідэнцтва, а нашаму "усенароднабрану" так і не ўдалося прабіцца на Захад з афіцыйным візітам. Прычына простая: ніхто не запрашае!**



Таму і вымушаны Аляксандр Рыгоравіч працікацца на Захад праз "чорны ход". Яскравы прыклад — паездка ў Вену на міжнародную канфэрэнцыю "Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля".

На чале беларускай дэлегацыі туды быў запрошаны міністр па надзвычайных сітуацыях Іван Кенік. І раптам з Карла Маркса,38 у міністэрства замежных справаў прыходзіць дэпеша: у Вену едзе сам прэзідэнт, тэрмінова рыхтуйце паездку. Кіраўніцтва МЗС, як сцвярджаюць нашыя крыніцы, злёгку разгубілася. Па-першае, форум не таго ўзроўню, каб ехаць кіраўніку дзяржавы. Другая праблема — як "уламаць" аўстрыйскае кіраўніцтва хаця б на кароткую сустрэчу з няпрошаным госцем. Карацей, дыпламаты апынуліся ў складанай сітуацыі, але ніхто з набліжаных так і не наважыўся хаця б намякнуць "бацьку", што не царская гэта справа ехаць на ардынарную канферэнцыю ды яшчэ ў замежную краіну.

Помніцца, у свой час апазіцыя жорстка крытыкавала старшыню Вярхоўнага Савета С.Шушкевіча за "неадпаведную рангу" паездку ў Германію па запрашэнні нямецкага бізнэса. Магчыма, у дачыненні да сп.Шушкевіча гэтыя патрабаванні былі справядлівымі, паколькі тагачасны кіраўнік нашай дзяржавы быў з афіцыйным візітам нават у Злучаных Штатах і павінен быў "трымаць узровень" сваіх замежных паездак. Што ж да Аляксандра Лукашэнкі, то, напэўна, нявартa судзіць яго строга.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

*СКАНДАЛ*

## Затрыманы груз «Торгэкспо»

*Унутраныя войскі сцерагуць больш за 300 вагонаў з гарэлкай*

**Пачынаючы з пятніцы (5 красавіка) на чыгуначных станцыях "Калодзішчы" і "Шабаны" каля Мінска, а таксама ў Гродна і Магілёве пад узмоцненай аховай унутраных войскаў стаяць эшалоны з імпартнай гарэлкай.**

Узброеныя салдаты ў бронекамізэльках круглыя суткі сцерагуць стратэгічны тавар, а тым часам у высокіх кабінетах вырашаецца лёс груза. Пікантнасць сітуацыі ў тым, што тавар належыць добравядомай фірме "Торгэкспо", якая знаходзіцца пад патранажам самога Лукашэнкі.

Прэзідэнт Беларусі, як вядома, сваім распараджэннем даў неверагодныя льготы гэтай кампаніі, вызваліўшы яе ад акцызаў, а таксама мытных ды іншых падаткаў. Дакумент быў падпісаны 22 лістапада 1995 г. і праштампаваны грыфам "не для печаці". Але інфармацыю ўтрымаць не ўдалося. Спачатку ў незалежных беларускіх газетах, а потым і ў расійскіх СМІ з'явіліся публікацыі з падрабязнасцямі пра дзейнасць "Торгэкспо", якая, як высветлілася, працавала ў звязку з ведамствам Івана Ціцянкова. Але куды канкрэтна ішоў "навар" — высветліць так і не ўдалося.

І вось "Торгэкспо" зноў засвяцілася. На адной толькі станцыі "Шабаны" затрымана каля 120 вагонаў з гарэлкай галандскай і нямецкай вытворчасці, а таксама спіртам (у самай рознай тары, у т.л. у 200-літровых банках). Усяго ж, па нашых звестках, на розных чыгуначных станцыях затрымана і ўзята пад ахову больш за 300 вагонаў. Агульны кошт тавару ацэньваецца ў дзесяткі мільёнаў долараў.

У міністэрстве ўнутраных справаў і мытных органах пацвярджаюць факт затрымкі груза "Торгэкспо", але не даюць ніякіх падрабязнасцяў. Хутчэй за ўсё, ў пятніцу мы вернемся да гэтай тэмы.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Зянон Пазьняк выступіў у прамым эфіры чэшскага тэлебачання

*Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык з 4 красавіка знаходзяцца ў Празе*

У велікодную нядзелю 7 красавіка папулярная вечаровая аналітычная праграма чэшскага ТБ распачалася сюжэтам пра Беларусь. Лідэр БНФ даў свой каментарый падзеям, якія адбываюцца цяпер у РБ. Цяперашнюю беларускую ўладу Зянон Пазьняк ахарактарызаваў як "крымінальна-фашыстоўскі рэжым" і заявіў, што жаданне Лукашэнкі размясціць у Беларусі ядзерную зброю ўтварае пагрозу для ўсіх краінаў Еўропы.

Падчас свайго знаходжання ў Празе Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык выступілі таксама на чэшскім радыё, бралі ўдзел у "*круглых сталах*" радыё "*Свабода — Свободная Еўропа*". На гэтым тыдні лідэры БНФ сустрэнуцца з чэшскімі палітыкамі з мэтай інфармавання пра сітуацыю ў Беларусі і магчымыя наступствы падпісаных 2 красавіка беларуска-расійскіх пагадненняў.

**В.П.**

*МЕРКАВАННЕ*

Каментуючы падпісанне ў Маскве беларуска-расійскага пагаднення аб утварэнні Супольнасці, беларускі міністр юстыцыі Валянцін Сукала заявіў, што некаторыя пункты заключанага дагавору пярэчаць беларускаму заканадаўству. Пры гэтым сп.Сукала падкрэсліў, што палажэнні беларуска-расійскага дагавора не пярэчаць Канстытуцыі Беларусі. Міністр юстыцыі не назваў канкрэтныя палажэнні падпісанага дагавору, якія пярэчаць беларускаму заканадаўству, аднак адзначыў, што пры ратыфікацыі ў беларускім парламенце спрэчныя пытанні будуць зняты, "паколькі ў гэтым выпадку будуць дзейнічаць нормы міжнароднага дагавору".

*СІМ*

## Другая справа Баршчэўскага

**Цэнтральны РАУС Мінска ўзбудзіў адміністрацыйную справу супраць намесніка старшыні БНФ Лявона Баршчэўскага.**



Улады абвінавачваюць яго ў арганізацыі мітынга 2 красавіка каля Палаца спорта. Учора, 9 красавіка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска павінна была разглядацца "справа Баршчэўскага", аднак паседжанне перанеслі на пятніцу 12 красавіка.

Дарэчы, Лявон Баршчэўскі адзін раз быў ужо асуджаны. 1 красавіка старшыня суда Цэнтральнага раёна Ігар Жданович на падставе міліцэйскага пратаколу вынес рашэнне аштрафаваць сп.Баршчэўскага на 300 тысяч рублёў "за арганізацыю пікета каля расійскага пасольства". Як лічыць суддзя, "Канстытуцыя толькі дэкларуе свабоду пікетавання, але не рэгламентуе, а значыць апошняе рашэнне застаецца за судом".

**Барыс РАМАНОЎСКІ**

## «Вы ў нас усе на стужцы»

*За ўдзел у мітынгу 2 красавіка чыноўнікі сістэмы адукацыі пагражаюць дырэктарам і настаўнікам мінскіх школ звальненнямі*

У канцы мінулага тыдня з усімі дырэктарамі мінскіх школ правялі нарады. Вышэйшыя чыноўнікі сістэмы адукацыі, якія праводзілі гэтыя сходы, запалохвалі кіраўнікоў школ і педагогаў звальненнем з працы ў выпадку, калі будзе засведчаны іх удзел у мітынгу і шэсці 2 красавіка. "Майце на ўвазе, што вы ў нас усе запісаныя на стужку, — заявіў падчас такой нарады адзін з "генералаў ад адукацыі". — Цяпер мы праглядаем усе запісы, каб дакладна высветліць удзельнікаў. Калі хто з вас будзе заўважаны, ці нават нехта з вашых педагогаў альбо вучняў, будзем звальняць не шкадуючы!"

Вядома, што пагрозы накіраваныя перш за ўсё на тое, каб стрымаць моладзь ад удзелу ў будучых акцыях пратэсту супраць палітыкі ўладаў. Аднак варта звярнуць увагу не толькі на метады адміністратыўнага ўціску, якія для гэтага ўжываюцца. Цікава адзначыць і ступень прававога негілізму дзяржаўных чыноўнікаў, якія нават не задумваюцца, што іхнія дзеянні па абмежаванні канстытуцыйных правоў грамадзянаў на мітынг і дэманстрацыю — грубае парушэнне закона.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## У выканкаме – сухі закон

**У Гродзенскі аблвыканкам зноў вярнулася "перабудова".**

Чыноўнікі, прыгадваючы гарбачоўскі антыалкагольны ўказ 11-гадовай даўніны, іранізуюць: у другі раз цвярозасць стала "нормай жыцця". Рэч у тым, што старшыня аблвыканкама А.Дубко гэтымі днямі забараніў падначаленым распіваць моцныя напоі ў службовых кабінетах. Распараджэнне было выклікана тым, што работнікі аблвыканкама даволі часта зачыняліся ў сваіх апартаментах, каб адзначыць свята, дзень нараджэння, выплаты заробку або яшчэ якую-небудзь важную дату. Аднак ад начальства нічога не ўтоіш.

**С.М.**

## Святкуем!

**Кабінет міністраў выдаў пастанову аб пераносе рабочых дзён з панядзелка, 22 красавіка на суботу, 20 красавіка і з пятніцы, 10 траўня на суботу, 4 мая 1996 г.**

**Такім чынам, выходныя будуць тры дні запар у красавіку (21, 22, 23) і чатыры дні ў траўні (9, 10, 11, 12).**

# Супраць Багданкевіча кінулі пажарных

*Напярэдадні прыезду Станіслава Багданкевіча ў Магілёў увесь горад раптам ахапіла супрацьпажарная ліхаманка*

Пажарныя апячаталі не толькі Дом культуры завода штучнага валакна, дзе меркавалася сустрэча з дэпутатамі ВС Багданкевічам, Дабравольскім і Навасядам, але і іншыя залы паблізу цэнтра горада.

Гутарка дэпутатаў з людзьмі адбывалася проста на вуліцы. Сабралося каля двухсот чалавек (напярэдадні мясцовыя СМІ паведамілі, што сустрэчы не будзе). Ацэньваючы цяперашнюю эканамічную палітыку, С.Багданкевіч сказаў, што на паляпшэнне разлічваць не даводзіцца. Прапанаваны ўрадам і зацверджаны парламентам бюджэт абяцае рост інфляцыі да 10 % штомесяц.

Характарызуючы прэзідэнцкае асяроддзе, С.Багданкевіч назваў адну вядомую банкірку (фаварытку прэзідэнта) "авантурысткай і карупцыянерам". Па словах Багданкевіча, карупцыя ў вышэйшых эшалонах улады дасягнула цяпер неверагодных маштабаў. Пры гэтым ён згадаў славутае ведамства Івана Ціцянкова. Лідэр Грамадзянскай партыі паведаміў, што пасля таго, як іх фракцыя ўзняла ў парламенце пытанне аб праверцы дзейнасці Кіраўніцтва справамі і звязаных з ім фірм, адміністрацыя арганізавала вываз з офісу скандальнавядомай кампаніі "Торгэкспо" цэлага грузавіка дакументацыі. На гэты конт быў зроблены дэпутацкі запыт у Пракуратуру, аднак ніякага адказу дэпутаты не атрымалі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# КДБ выкрыла яшчэ адну антыдзяржаўную змову

**Гэтым разам пагроза бяспецы дзяржавы сыходзіла з Крычаўскага вучылішча будаўнікоў.**

Тут пайшла пагалоска, што вучылішча будзе ператворана ў агульнадукацыйны ліцэй, у выніку чаго 70 работнікаў ПТВ могуць страціць працу. Такая перспектыва не ўзрадавала выкладчыкаў і яны вырашылі забаставаць. Аднак органы спрацавалі аператыўна. У вучылішча заявіўся супрацоўнік мясцовага аддзялення КДБ Вячаслаў Язерскі і распачаў пошукі "падбухторшчыкаў". І хоць "завадатараў" выкрыць не ўдалося, але змова была ліквідаваная.

**Сяргей НЯРОЎНЫ**

АЦЭНКІ

# Le Figaro: «Беларусь – настальгія па СССР»

Пад такім загалоўкам французская газета *Le Figaro* апублікавала вялікі артыкул, прысвечаны *"пампезнаму"* падпісанню двухбаковага саюзнага пагаднення паміж Расіяй і Беларуссю. На думку газеты, *"беларусы заўсёды былі прыкладнымі вучнямі савецкага рэжыму, і зараз яны спадзяюцца, што з дапамогай Расіі выйдуць з цяжкага эканамічнага становішча"*.

Між тым, адзначае *Le Figaro*, за мінулыя два тыдні ў Мінску прайшло дзве шматлікія маніфестацыі прыхільнікаў незалежнасці, у ходзе якіх мелі месца жорсткія сутыкненні паміж дэманстрантамі і сіламі паліцыі. Аднак *"у асяроддзі прэзідэнта* ***не разумеюць****, чаму гэта гісторыя з аб'яднаннем* ***робіць столькі шуму****. Можна было чакаць яго аднагалоснай падтрымкі ў гэтай краіне, за якой даўно замацавалася рэпутацыя аморфнай, дзе сітуацыю вызначаюць галоўным чынам пенсіянеры, адстаўнікі КДБ і арміі, якія жывуць настальгіяй па старым рэжыме"*.

*Le Figaro* прыводзіць словы аднаго заходняга дыпламата, які кажа: *"Беларусь заўсёды была прыкладным вучнем СССР, "савецкай Вандэяй", якая больш за іншыя рэспублікі здолела скарыстацца сацыялізмам і якой цяпер яго не хапае. Прэзідэнт Лукашэнка эксплуатуе гэтую настальгію"*. Характарызуючы Лукашэнку, газета заўважае, што *"былы дырэктар саўгаса вельмі харызматычны і з непамернымі амбіцыямі. Тыя, хто яго ведае, кажуць, што на самой справе ён марыць толькі аб адным: трапіць у Крэмль і ўзыйсці на трон новага саюзу"*.

*"Што да прыхільнікаў незалежнасці, то яны тлумачаць сваё непрызнанне Масквы "рускімі хваробамі": галапіруючай злачыннасцю і вайной у Чачні,"* — піша *Le Figaro*.

На заканчэнне газета адзначае: *"Пакуль што ў Расіі няма ні намеру, ні фінансавых сродкаў, каб праглынуць Беларусь"*, але *"рашэнне застаецца за Масквой і саюз можа прыняць самыя нечаканыя формы"*.

**"Табе ўжо добра вядомы гэты шлях!"**

*(Карыкатура з амерыканскага часопіса TIME)*

# Financial Times: «Краіна, якая прагне кахання Расіі»

Так называецца артыкул у лонданскай *Financial Times*, у якім распавядаецца, як *"Беларусь зноў кінулася ў абдымкі да Расіі"*. Аднак для Масквы, якая на працягу апошніх двух гадоў адмаўлялася кінуць Беларусі *"фінансавы выратавальны круг"*, гэты саюз пазбаўлены якой-небудзь эканамічнай перспектывы, адзначае газета.

*Financial Times* падкрэслівае, што ў адрозненне ад Расіі, дзе адбылася прыватызацыя шэрагу буйных прадпрыемстваў, у Беларусі зноў уведзена строгае валютнае рэгуляванне, спынена прыватызацыя, а таксама забаронена рэгістрацыя прыватных камерцыйных структураў. Згадваецца таксама, што Міжнародны валютны фонд спыніў сёлета выдзяленне Беларусі 300-мільённага доларавага крэдыту.

Гаворачы пра палітычную сітуацыю ў Беларусі, *Financial Times* апроч іншага, звяртае ўвагу на тое, што *"апазіцыя не мае доступу да СМІ, не транслююцца незалежныя навіны на тэлебачанні"*.

Артыкул завяршаецца цытатай са штогадовага даклада па правах чалавека Дзяржаўнага дэпартамента ЗША, дзе адзначаецца, што Беларусь *"вяртаецца ў эру савецкага аўтарытарнага праўлення"*.

**Падрыхтаваў**
**Уладзімір КЛЯПЕЦ**

# Развітанне з Радзімай?

***Шаноўная рэдакцыя, днямі ў мяне адбылася тэлефонная гутарка з адным мінскім знаёмым на актуальную, як кажуць, тэму. Прапаную вашай увазе некаторыя фрагменты.***

**З павагай, Аляксандр Лукашук (Прага)**

— *Эміграцыя — гэта здрада нашай агульнай справе,* — заявіў мой субяседнік, калі мы загаварылі пра падзеі пасля мітынгу ў абарону незалежнасці Беларусі і далейшыя дзеянні ўладаў і апазіцыі. І працягваў: *— Гэта здрада ўсім, хто застаўся, гэта здрада сабе, бо гэта баязлівасць.*

— Іншымі словамі, правільна было б застацца і даць магчымасць рэжыму дабіцца свайго — тады гэта была б не здрада нашай справе, так? — спытаўся я. — Калі б чалавек быў пазбаўлены рабіць гэтую справу, пісаць, гаварыць, дзейнічаць дзеля яе — гэта было б правільна і на карысць? Вам не здаецца, што вы ўяўляеце нашу справу ў выглядзе паганскага бога, які крыважэрна патрабуе ахвяраў і гэтыя ахвяры трэба моўчкі прыносіць, а хто не хоча быць з'едзеным драконам — той баязлівец? Трэба пакорліва даваць здзекавацца над сабой — у гэтым доблесць? І правільна, што Кастуся Каліноўскага павесілі, добра, што не ўцёк з-пад шыбеніцы. Іначай была б бяда, вялікая шкода беларускай ідэі. Яшчэ б заплыў, барані Бог, у Амерыку, як Касцюшка, і помнік паставілі б яму ў амерыканскім Кангрэсе. А так вяроўку накінулі на шыю і падстаўку з-пад ног выбілі. Вяроўка — выключна дзеля беларушчыны — шыю перарэзала, горла перадавіла, захрыпеў, вочы з арбіт вылезлі, лёгкія скруціла, язык вываліўся...

— *Заўсёды лічылася прыгожым памерці дзеля Радзімы.*

— А выжыць дзеля Радзімы, значыць, менш прыгожа? Парушае эстэтычныя ўяўленні гледачоў і былых таварышаў? Цяпер таварышы жадаюць класічнага завяршэння і іх жаданні супадаюць чамусьці адзін да аднаго з жаданнямі катаў. Аднак таварышы гэтага супадзення чамусьці не заўважаюць. Яны перакананыя, што прагнуць крыві свайго нядаўняга сябра выключна з высакародных матываў. Няхай памрэ за ідэю. Ідэя, лічаць яны, вартая таго, каб за яе памерці. Меркаванні сябра, які небеспадстаўна заўважае, што тады цяжка адрозніць катаў ад таварышаў, іх вельмі крыўдзяць.

— *Калі ўлез у гэтую справу — ідзі да канца, памры, іначай ты здраднік.*

— У чым здрада — у тым, што не даў паздзекавацца над сабой, над сваімі блізкімі? І магчыма, быць зламаным, скалечаным якім-небудзь псіхатропным прэпаратам і падпісаць што-небудзь гнюснае, пагадзіцца з катамі? Не даў ім дасягнуць іхнай мэты — гэта што, адзначае пасобніцтва ворагу? Правільна было б дапамагчы праціўніку дабіцца свайго?

— *Не ў гэтым справа, але ў нашай турме ўцякач-эмігрант мог бы стаць нашым сцягам. Мы б на ягоным прыкладзе вялі моладзь, арганізоўвалі пратэсты, складалі паэмы і песні. А так яго і нас будуць папракаць у адсутнасці мужнасці, баязлівасці, здрадзе ідэалам.*

— Якім ідэалам ён здрадзіў?

— *Ён не памёр за Радзіму, а мог. Ён жа кляўся ў любові да Радзімы, хіба ж не?*

— Не разумею, чаму вы дазваляеце яму любіць Радзіму толькі мёртваму. Чаму не жывому? І чаму папрокі тых, хто з'яўляецца нашым ворагам, павінны быць для нас аўтарытэтнымі? З якога часу ў вас сталі аднолькавыя маральныя ацэнкі? І апроч таго, той бок такіх патрабаванняў сваім членам не прад'яўляе. Ён чамусьці хоча выключна крыві праціўнікаў.

— *Мы — не такія, як яны, і таму выкручвацца і хавацца не будзем. Гэта нізка.*

— Як белыя афіцэры ў фільме "Чапаеў", якія прыгожа, ліха і адважна ідуць у псіхічную атаку на чырвоныя кулямёты — як бараны. Вашыя патрабаванні нагадваюць адзін загад, які ўвайшоў у гісторыю войнаў як самы жорсткі і дурны адначасна: ні кроку назад, патрабаваў той загад. А за кожны такі крок, зроблены без дазволу камандавання, г.зн., тых, хто быў ззаду — расстрэл. Вялікі дзякуй ад гера Гітлера таварышу Сталіну. Што гітлераўскія салдаты не пабілі ў адкрытых палях і на дурацкіх вышынях, тое па загаду Радзімы дабівалі таварышы смершаўцы.

— *Так вы што, можа быць лічыце, што і Маскву трэба было аддаць, і Ленінград, і за Сталінград не трэба было змагацца?*

— Хто вінаваты ў той вайне, і чаму яна была такая бяздарная — асобная тэма. Заўважу, аднак, што Кутузаў Маскву аддаў, непатрэбных бітваў пазбягаў — і колькі жыццяў выратаваў, наколькі калек менш дахаты вярнулася... Гэта тыпова сталінскія адносіны да чалавека, якія падзялялі і яго ахвяры, толькі гэта ім не дапамагло. Яны таксама лічылі партыю вышэй за чалавека, прынцыпы даражэй за жыццё (чужое).

— *Так, не хочаце пагаджацца, выкручваецеся, прыдумваеце нейкія адгаворкі замест таго, каб адважна выканаць сваю місію. Шкода ад такіх паводзінаў велізарная, як ні круці.*

— Шкода для каго і чаго? Для рэжыму — так, шкода, бо яны не дасягнулі таго, чаго хацелі. Шкоды для справы, далібог, не бачу. Праўда, можа, нам трэба больш выразна дамовіцца, што ёсць наша справа, чаго яна вымагае. Мне здавалася, што гэтая справа накіраваная на паляпшэнне жыцця для ўсіх, і ягонага ўключна. Яна накіраваная дзеля адраджэння недаробленага папярэднікамі. Занадта мала ім выпала пражыць на волі і зрабіць, у нас столькі работы наперадзе...

**Вось такі дыялог. Кожны можа працягнуць яго сваімі аргументамі і контраргументамі. На развітанне я параіў, перш чым выносіць прысуды, паглядзець на вынікі дзейнасці тых, аб кім ідзе гаворка. Ён пагадзіўся, і мы дамовіліся сазваніцца зноў.**

*Прага — Мінск*
*7 красавіка 1996*

ЧАРНОБЫЛЬ

# Патрабаваць ад Расіі не маем права

*Можна толькі прасіць...*

Расія, як вядома, праваспераемніца СССР. Ці маем мы з гэтай прычыны права патрабаваць ад яе кампенсацый за Чарнобыльскую катастрофу? Улады сцвярджаюць, што для гэтага няма юрыдычных падставаў. Да такой высновы прыйшлі ў інстытуце філасофіі і права Акадэміі навук, які вывучаў гэтае пытанне. Пра гэтае заключэнне экспертаў паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Гродне У.Кудзін, начальнік упраўлення сацыяльнай абароны насельніцтва і прававой работы Міністэрства па надзвычайных сітуацыях РБ.

З чатырох мільёнаў 500 тысяч пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы практычна палову — 2,2 млн. — складаюць беларускія грамадзяне. Аднак, па словах сп. Кудзіна, наш урад з кожным годам усё менш сродкаў выдзяляе на дапамогу пацярпелым і ліквідацыю вынікаў аварыі. У 1992 г. на гэтыя мэты было прызначана 12,6% гадавога бюджэту краіны, а у 1995 г. ужо толькі 7,3%. Тым часам колькасць асобаў, якія сталі інвалідамі ў выніку ўплыву чарнобыльскай радыяцыі, расце штогод на некалькі соцень чалавек.

Што датычыць ільготаў, то ў нас, як гаворыць У.Кудзін, асабліва бяспраўнымі аказаліся простыя рабацягі, якія працавалі ў забруджанай зоне... Многія з іх не маюць ніякіх дакументаў наконт гэтага. Самыя настойлівыя, а іх няшмат, звяртаюцца ў суд, які па паказаннях сведкаў можа прызнаць за імі права на атрыманне пэўных ільготаў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Бреющий полет на двух стульях

Когда-то я предсказал, что на президентских выборах победит либо Гриб, либо Лукашенко. И не ошибся.

Следующий прогноз: Александр Лукашенко удержится в президентском кресле не более семнадцати месяцев (полтора года).

Здесь, как оказалось, я дал маху. Но восхождение А.Лукашенко, кроме как на президентское, еще и на председательское кресло Высшего совета Сообщества России и Беларуси, это все равно, что назначение нашего белорусского зайчика российским орлом, но вместо царских корон, надетых на две орлиные головы, которые смотрят на запад и на восток (и имеют соответственно две шеи), дать зайчику (который, получается, имеет больше одной задницы) два кресла — на севере и на юге. Но если в истории геральдики орел с двумя головами встречается, то зайца с двумя седалищами — нет. И это не случайно. Потому что две головы, вооруженные клювами, позволяют лучше обороняться и способствуют выживанию, тогда как раздвоенное мягкое место служит отличной мишенью для охотника либо всякого другого, любящего "наподдать", и никак не увеличивает шансы сохранения особи как вида, не говоря уже о престиже.

Мне думается, что заяц с гипертрофированными ягодицами является для орла, у которого две глотки, *очень интересным партнером*. И, конечно, наш зайчик высоко полетит (в Высшем совете Сообщества), да только лететь придется в крепких когтях российского орла, которые чем выше, тем сильнее будут сжиматься (чтобы, не дай Бог, не выпал друг-зайчик), пока не придушат беднягу.

Так что мне искренне жаль Александра Григорьевича, и как молодого политика, чья песенка уже спета, и как президента суверенной Беларуси. Раскрою подробнее: как говорил один из персонажей товарища Райкина, "*...И хоть всякое дело, которое мне поручали, я проваливал, но считалось, что как руководящий работник я расту!*" Так "*вырос*" и наш президент. В доме, где живет (Беларуси), благосостояние народа не улучшил, но занял уже и более *высокое* кресло. В советское время практика повышения по служебной лестнице нерадивых руководителей, *заваливавших дело*, но плотно сидевших в партийной *обойме* и имевших профессию *хорошего человека и верного ленинца*, часто использовалась для сохранения *кадров*. Так вот, формально — А.Лукашенко президент Республики Беларусь, но он теперь — говоря языком Политбюро ЦК КПСС — *курирует* Беларусь, отвечая уже не за благосостояние белорусского народа, а только за **развитие взаимоотношений** между Россией и Беларусью. По сути, Лукашенко поменял президентство в РБ на "*другую ответственную работу*". Все внимание исполнительной власти направлено теперь только на *интеграцию*, вне зависимости от того, какие результаты будут получены — хорошие или плохие, — главное для А.Лукашенко — *удержаться на плаву*.

Ни Акаев, ни Назарбаев, ни Ельцин не претендуют на какую-либо должность в создаваемых наднациональных советах (первые двое в силу, я бы сказал, своей восточной мудрости, а Б.Ельцин и так будет заправлять всем по праву самого богатого и сильного). И лишь наш президент садится в *бутафорское* кресло, имитируя *бурную деятельность*. Но все это — фарс и лишь подтверждение того, что Александр Григорьевич промелькнет на небосводе, не оставив следа.

Поглубже поразмыслив, я понял, что хоть и ошибся в сроках отставки президента на несколько месяцев, но в главном оказался прав — не устоял А.Лукашенко как президент. И в ближайшем будущем мы станем свидетелями, как подчиняясь, я бы сказал, *законам* жанра (возьмем, к примеру, роман А.Дюма "Три мушкетера"), А.Лукашенко, своим воинственным пылом походящий более всего на д'Артаньяна (соответственно Н.Назарбаеву достается роль справедливого Атоса, Б.Ельцину — могучего Портоса, а А.Акаеву — лукавого Арамиса в этой легендарной четверке), будет оплакивать смерть своей возлюбленной Констанции Буонасье (читай — экономический развал Республики Беларусь), произносить траурные речи и бить себя по голове за то, что не смог уберечь ее от козней злой Миледи (читай — Европы). И, конечно, не помешает Портосу занести справедливый карающий ядерный меч над коварной куртизанкой. Но, как известно, жизнь д'Артаньяна (читай — политическая карьера) оборвалась в тот момент, когда ему вручили маршальский жезл (назначили председателем Высшего совета Сообщества).

Опять же, если здраво рассудить, как ни крути, а реформы в России продвинулись дальше, чем в Беларуси. И, несмотря на возможное оттягивание Г.Зюгановым страны назад к развитому социализму и осуществленное в свое время с далеким прицелом А.Лукашенко подстраивание уклада Беларуси *под коммунистов* путем *национализации* банков, земли и всего мало-мальски ценного (Управление делами президента), невозможно выровнять скорости реформаторских процессов России и Беларуси. Поэтому политика, проводимая Россией в Беларуси, будет другой, не такой, какую проводит А.Лукашенко. Проводимая Россией политика при победе коммунистов на президентских выборах, скорее всего, будет антинародной, ухудшающей и без того плачевное экономическое состояние населения Беларуси. При победе же Б.Ельцина, которая представляется мне наиболее вероятной, А.Лукашенко никак не сможет угнаться (несмотря на свою молодость "*как политика*") за энергичными шагами спортсмена со стажем — Б.Ельцина, и "*сдохнет*" после первого же круга (читай — потеряет былую популярность у народа, управляя Республикой силовыми методами на протяжении длительного времени). И, если следовать дальше спортивной терминологии, *хороший* результат на фоне России А.Лукашенко сможет получить в Беларуси только при помощи *допинга*, которым являются у нас российские нефть и газ. Но применение допинга не зря запрещено среди спортсменов, оно ведет к патологическому перерождению организма (в нашем случае экономики), потере репродуктивных функций и, в конце концов, к смерти. Политику, проводимую сейчас А.Лукашенко, ничем иным, как *сажанием* Беларуси на нефтяную *иглу* и превращением ее в *экономического наркомана*, не назовешь. А за наркотик, когда продадим все, что можно (основные и оборотные фонды, объекты приватизации), нужно будет платить либо своим телом (территорией), либо выполнением *грязной работы* (подавлять "горячие точки"), либо придется добывать *зелье*, занимаясь воровством и разбоем. Но, поскольку в Европе особенно *не поворуешь*, остается грабить лишь белорусский народ. Вот что нас ждет, дорогие соотечественники! Но, как говорится, нет худа без добра: одновременно с неизбежной деградацией Беларуси как вассала сильного соседа ослабнут и *бастионы* президента, тогда, может быть, сострадательная Россия излечит нас от *насморка*, отрубив **саму** "голову".

Может быть, кто-нибудь попробует привести пример Японии, которая развивается только на импортном сырье (в том числе и нефти), тогда неплохо бы вспомнить, что там — капитализм. Япония — сама хозяйка своего "*тела*", имея институт частной собственности на землю и все, что на ней находится.

Чтобы не заканчивать на траурной ноте, приоткрою покров возможного развития событий: если отказаться от бесплатного сыра, который бывает только в мышеловке (от российской нефти), то наступит "ломка" или очень болезненное разрушение зависимости от "*дешевого*" российского сырья и развитие в Беларуси капитализма, как вариант возможного выздоровления путем восстановления естественных процессов жизнедеятельности экономики на основе рыночных отношений.

Для осуществления такого благоприятного исхода необходимо, чтобы ты, уважаемый читатель, помог Беларуси стать краем сильных зубров, во главе которых стоит могучий двурогий исполин, умеющий бодаться с трудностями нашего времени, потому что заяц, отращивающий ягодицы для двух кресел и мечтающий прокатиться на широкой спине двуглавого орла, годится разве что на жаркое. И, если здраво рассудить, то заяц в когтях у орла — это одно, а вот **зубр** — это, согласитесь, совсем другое!

**Мирон ТУРАН**

ВАЛЮТА

# Весна. Доллар тронулся

## *Национальный банк распорядился не выпускать «зеленого» за рамки валютного «коридора»*

*На прошедшей неделе внимание с интеграционных процессов переместилось на валютный рынок, где 3 апреля свершилось поистине эпохальное событие — котировка доллара США после долгого периода поддержки на фиксированном уровне в 11.500 рублей за 1USD, выросла на торгах Межбанковской валютной биржи до 11.840 рублей.*

### Наличный и «черный» курсы на подъеме

Ситуация, складывающаяся на валютном рынке, предполагала нечто подобное, однако, наученные предыдущим опытом, участники рынка ожидали, что и в этот раз курс будет поддерживаться любыми методами. А ситуация на рынке была нестабильной. Так, например, котировки наличной валюты продолжили свой постепенный рост. Уже к концу предыдущей недели наличный доллар "перевалил" за тринадцатитысячный рубеж.

Кстати, стремительное ежедневное (а иногда и по несколько раз в день) увеличение курсов наличной валюты подстегивало население к более активному участию в валютных операциях. Часто складывалась ситуация, когда, продав доллар или немецкую марку по максимальному курсу одному банку или финансовой компании и сразу же купив их по минимальной стоимости у других, можно было неплохо заработать. Здесь, конечно, больше всех повезло "валютчикам". Во-первых, у них существуют хорошо налаженные каналы приобретения и сбыта СКВ и российских рублей, благодаря которым они имеют возможность с высокой степенью оперативности конвертировать валюту. И во-вторых, обменные пункты иногда просто не справлялись с наплывом средств: нередко в их окошках можно было увидеть вывески типа "белорусских рублей нет" или "валюты нет".

На "черном" валютном рынке курс доллара вырос до уровня в 13.000-14.000 рублей еще на предыдущей неделе и сохранился на достигнутом уровне. Подобной динамике котировок способствовали известные факторы, предопределившие увеличение количества белорусских рублей в обращении:

— выдача за счет кредитов заработной платы в промышленности,

— начало выделения средств агропромышленному комплексу на новую "битву за урожай",

— снижение ставки рефинансирования (ставка, устанавливаемая Нацбанком для кредитования коммерческих банков) и др.

Можно отметить, что в этих условиях при постоянном биржевом курсе в 11.500 BLR/USD резко усилилась привлекательность спекулятивных операций по покупке валюты на бирже и продажи ее на "черном" рынке.

### На бирже не без перемен

Все эти факторы поспособствовали росту биржевого спроса прежде всего на американскую валюту. Это отразилась и в увеличении объемов торговли долларом США на МВБ в среднем до 10 млн. USD в неделю, зафиксированном в последнюю неделю. Многократное превышение спроса над предложением вынуждало Национальный банк продавать все большие суммы валюты. И 3 апреля курс был отпущен. Без сомнения подобное решение не могло быть принято без одобрения г-на Лукашенко. Вероятно, дела настолько плохи, что пришлось пожертвовать главным и единственным "успехом" в сфере экономики во время правления этого господина.

### Ни дня без контроля

Однако на следующий день, 4 апреля, Национальный банк, похоже, получил высочайшее указание вернуть курс "на место". Трудно уверенно говорить о причинах подобного решения. Возможно это делалось с целью показать влияние государства на рынок — вчера подняли, завтра вернули. А может быть, это всего лишь отразило замысловатую логику мышления г-на Лукашенко. Но в этот день спрос на доллары в очередной раз оказался намного выше предложения (более чем на 10 млн. USD), и центральному банку пришлось основательно потрудиться. Торги в этот день закончились лишь в 19:25 (в спокойные времена они начинались в 11:00 и продолжались не более получаса). Таким образом, около восьми часов ушло на размышления Нацбанка — "что делать?". В итоге было решено значительно увеличить предложение (естественно, за счет средств Нацбанка) и сократить спрос за счет снятия некоторых заявок на покупку валюты со стороны коммерческих банков. Итогом всех этих усилий стало падение курса до 11.700 BLR/USD.

В этот же день появилась и телеграмма Нацбанка, в которой банкам разрешалось устанавливать курс наличной валюты на основании имеющегося спроса и предложения, но в рамках валютного "коридора", т.е. не более 13.100 BLR/USD. Этот небольшой документ представляет собой попытку "порулить" и на рынке наличной валюты. Однако существуют большие сомнения в его эффективности: ибо если банки не смогут обойти эти ограничения, то их совершенно точно проигнорируют "валютчики".

В последний день недели торги на бирже также сильно задержались. Спрос на доллары составил более 10 млн. Предложения же этой валюты со стороны банков фактически не было. И опять за счет Нацбанка, который продал необходимое количество долларов, курс остался на уровне предыдущего дня — 11.700 BLR/USD.

### Что же дальше?

Белорусские и зарубежные эксперты уже давно осознали необходимость девальвации белорусского рубля по отношению к доллару. Кстати, кредит Международного валютного фонда Беларусь не получила именно по причине несогласия представителей Фонда с проводимой белорусским правительством валютной политикой. А сумма второй транши кредита довольно солидная — 70 млн. долларов. Совсем не лишними оказались бы сейчас эти деньги для Беларуси. Г-н Лукашенко, естественно, имеет на этот счет свое мнение и не собирается его изменять. Однако, как дорого оно обойдется для страны? Хотелось бы подсчитать не только потери от неполученного кредита, но и узнать всю сумму средств, истраченных на поддержание курса, оценить убытки экспортеров от его завышения и т.д.

Предсказать же дальнейшее развитие ситуации вряд ли возможно. Курс наличного доллара и котировки "черного" рынка вряд ли опустятся ниже достигнутых значений, если, конечно, не произойдет кардинального изменения ситуации.

**Алесь САДОВСКИЙ**
**Наталья КОРЗУН**

**ВЯЛІКДЗЕНЬ**

**7 красавіка праваслаўныя адзначылі два святы: Вербную нядзелю і Дабравешчанне. Царква адзначае, што супадзенне гэтых двух святаў у адзін дзень адбываецца адзін раз у сто гадоў. У Вербную нядзелю людзі асвячаюць у царкве галінкі вярбы, якія нагадваюць пальмавыя галінкі, з якімі сустракаў народ Ісуса Хрыста на ўваходзе ў Іерусалім за тыдзень да свайго цудоўнага ўваскрашэння.**

**Пасвечанымі галінкамі "пасцёбваюць" сваіх родных і блізкіх, каб такім чынам перадаць ім моц і жыццяздольнасць дрэва, якое з'яўляецца сімвалам здароўя і дабрабыту.**

**А з Дабравешчаннем звязаны добравядомы хрысціянскі сюжэт аб цудоўным зачацці сына Божага Ісуса Хрыста.**

*На здымку: так свяцілі вярбу ў нядзелю 7 красавіка на падворку Мінскага Кафедральнага сабора.*

**КРЫМІНАЛ**

# Справа супраць вайсковых пракурораў «лопнула»

*Што гэта было: памылка ці правакацыя?*

**Супрацоўнікаў Беларускай вайсковай пракуратуры Валерыя Шаўчэнку і Аляксандра Каспера, як аказалася, дарэмна абвінавачвалі ў атрыманні тысячадоларавага хабару. Днямі намеснік начальніка аддзела па барацьбе з карупцыяй Пракуратуры РБ Іван Бранчэль быў вымушаны "з-за недаказанасці" спыніць справу супраць Шаўчэнкі і Каспера.**

Нагадаем, што мінулай восенню гэта быў самы гучны подзвіг мінскай міліцыі: у вайсковую пракуратуру ўварваліся сярод белага дня амонаўцы з аўтаматамі, хабаршчыкаў узялі "с поличным", у прэсе раструбілі пра знішчэнне яшчэ аднаго клубка карупцыянераў. А на самой справе ўсё вельмі падобна на правакацыю, прычым зробленую няўдала і "бруднымі" рукамі. У якасці правакатара быў выкарыстаны каўказец Б., якога кампетэнтныя людзі лічаць "асабістым агентам" аднаго з тагачасных намеснікаў міністра ўнутраных справаў.

Пачалася гэтая скандальная гісторыя з таго, што Б. выстраліў з малакаліберната пісталета па машыне вайсковай пракуратуры, якая суправаджала жалобную працэсію падчас пахавання супрацоўніка вайсковай пракуратуры. Ад стрэлаў ніхто не пацярпеў і затрыманы на месцы здарэння Б. быў адпушчаны. Але назаўтра ён заявіўся ў вайсковую пракуратуру з прапановай даць тысячу долараў у якасці маральнай кампенсацыі пацярпелым пракурорам. Тыя адмовіліся браць грошы, і тады Б. стаў угаворваць іх перадаць гэтую тысячу ўдаве нябожчыка — як адступное за "непрыемнасць". На жаль, на яго "шчырыя" ўгаворы паддаўся загадчык канцылярыі маёр Каспер. Ён выдаў Б. адпаведную распіску, паклаў грошы ў сейф, і праз хвіліну... быў затрыманы. Як потым высветлілася, міліцыя забяспечыла каўказца спецыяльнай апаратурай і не дзіва, што аўтаматчыкі ўварваліся ў канцылярыю вайсковай пракуратуры, як толькі лясну ў замок сейфа.

Зараз следства нарэшце абвясціла, што хабар не даказаны. Але ці быў ён увогуле? Дасведчаныя людзі сцвярджаюць, што справа "лопнула" зусім не з-за "дэфіцыту" доказаў, якіх ад роду не было. Бо следству адпачатку было вядома і аб правакацыйным здарэнні падчас пахавання, і пра спробы Б. даць пракурорам "на лапу", і пра распіску ў атрыманні грошай, выдадзеную на бланку вайсковай пракуратуры, што само па сабе ўжо здымала абвінавачванні ў хабарніцтве. Але замест таго, каб хутка пакласці канец "ініцыятыве" некаторых міліцэйскіх кіраўнікоў, следства рабіла ўсё наадварот. Нават арыштавала акрамя А.Каспера яшчэ аднаго супрацоўніка вайсковай пракуратуры — В.Шаўчэнку. Цікава яшчэ і такое назіранне: актыўнасць следства ў пошуках доказаў знікла якраз тады, калі быў адпраўлены ў адстаўку высокі пакравіцель каўказца Б.

Цяпер А.Каспер і В.Шаўчэнка на волі, якой яны былі пазбаўленыя амаль 5 месяцаў. За "памылку" ніхто ў іх не папрасіў прабачэння, як ніхто не збіраецца кампенсаваць нанесеныя ім страты. Затое следчы, які расследваў справу аб "хабары", працуе ўжо намеснікам начальніка аддзела барацьбы з карупцыяй Пракуратуры Беларусі. А справа, узбуджаная супраць Б. па факту стральбы па аўтамашыне з пасажырамі, завісла ў Першамайскім РАУС Мінска. Каб у ёй паставіць кропку, пяці месяцаў аказалася недастаткова.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

## «Абчысцілі» карпункт

**Вечарам 6 красавіка быў абрабаваны мінскі карэспандэнцкі пункт *Gazety Wyborczaj* — найбуйнейшага польскага выдання.**

**Злодзеі ўзламалі дзверы, вынеслі кампутар, тэлевізар, відэамагнітафон, музычны цэнтр і іншыя рэчы. Агульны кошт скрадзенага — каля 4 тыс. долараў.**

**Дарэчы, карпункт размяшчаецца ў доме насупраць будынка Пракуратуры РБ і мінскай гарадской пракуратуры, а ў двухстах метрах знаходзіцца аддзяленне міліцыі Цэнтральнага раёна сталіцы.**

**Валодзя ЯНЧУК**

## Рабаўніцтва пры дапамозе рэкламнай аб'явы

**На мінулым тыдні ў Мінску быў абрабаваны дырэктар фірмы "Бензфіцыус".**

**Цікава, што вопытны камерсант трапіў на прымітыўную "рэкламную прынаду". Прачытаўшы ў газеце аб'яву пра тое, што адзін абменны пункт мяняе валюту па вельмі выгодным курсе, дырэктар "Бензфіцыуса" прыехаў па ўказаным у газеце адрасе, а там яго ўжо чакалі чацвёра злачынцаў. Пагражаючы пісталетам, яны звязалі бізнесмена і адабралі 9.600 долараў. "Абменны пункт" быў абсталяваны ў кватэры, якую арэндавалі злачынцы.**

**СІМ**

**СПОРТ**

# Будзем перажываць за нашых хакеістаў!

**АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ**

У мінулую суботу ў сталіцы Грэцыі Афінах прайшлі святкаванні, прысвечаныя 100-годдзю І Алімпійскіх гульняў сучаснасці. У Афіны даставілі факел XXVI Алімпіяды ў Атланце, які асвяціў спаборніцтвы па тых жа відах спорту, у якіх спаборнічалі спартсмены ў 1896 г. На свята сабралася многа высокіх гасцей. Сярод іх прэзідэнт МАК Хуан Антоніо Самаранч, які заявіў, што грэцкая сталіца мае добрыя шанцы прыняць гульні 2004 г., і трохразовы алімпійскі чэмпіён Леон Штукель са Славеніі. Штукелю — 97 гадоў, ён быў пераможцам на гімнастычных турнірах Алімпійскіх гульняў 1924-28 гадоў, быў прызёрам Алімпіяды 1936 года.

**ФУТБОЛ**

На жаль, на момант здачы газеты ў друк мы не можам паведаміць вам вынікі паўфінальных матчаў еўрапейскіх кубкавых турніраў.

У Лізе чэмпіёнаў адбылася галоўная сенсацыя: "Аякс" прайграў, прычым у сябе дома ў Амстэрдаме. Мінулагодняя ўладальнікі Кубка чэмпіёнаў без перапынку, але і безвынікова атакавалі варота грэцкага "Панацінаіkаса". За тры хвіліны да канца паядынка галандцы прапусцілі контратаку гасцей, якую завяршыў польскі легіянер Кшыштаф Варжыха. У матчы ў адказ "Аякс" будзе нялёгка. У другім паўфінале італьянскі "Ювентус" даказаў у Турыне сваю перавагу над французскім "Нантам" — 2:0. Мячы ў вароты гасцей правялі пасля перапынку Віалі і Югові́ч. Апошні, дарэчы, таксама легіянер — з Югаславіі.

У Кубку ўладальнікаў кубкаў у абодвух выпадках гасцям шанцавала болей. "Пары Сен-Жармен" намаганнямі Юрыя Джаркаефа забіў пераможны гол у Ла-Каруньё у вароты мясцовай "Дэпартывы" — 1:0. "Феенорд" і "Рапід" згулялі ў Ратэрдаме ў нічыю — 1:1, прычым у гаспадароў пенальці рэалізаваў знакаміты Рональд Куман, у венцаў вызначыўся Янкер.

Нагадаем, што ў Кубку *UEFA* пражская "Славія" саступіла французскаму "Бардо", а "Баварыя" (Мюнхен) і "Барселона" згулялі ў нічыю — 2:2. Матчы ў адказ усіх трох турніраў пройдуць 16-18 красавіка.

**ХАКЕЙ**

Нацыянальная зборная Беларусі па хакею 10 красавіка стартуе ў Эйндховене (Галандыя) на чэмпіянаце свету ў групе *В*. Першы матч нашы згуляюць з адным з галоўных супернікаў — камандай Швейцарыі. Беларускае тэлебачанне будзе трансліраваць шэсць з сямі паядынкаў нацыянальнай каманды, прычым не ў запісе, а ў жывым эфіры. Трансляцыі сталі магчымымі дзякуючы таму, што прэзідэнт Лукашэнка чытае *"Прессбол"*. Газета звярнула ўвагу на сабацiраванне кіраўніцтвам БТ практычна заключанай здзелкі з Еўрапейскім тэлевяшчальным саюзам і швейцарскай фірмай *CWL Telesport*. Штуршок прэзідэнта, які даведаўся пра неўважлівасць тэлекіраўніцтва з артыкула ў *"Прессболе"*, выратаваў сітуацыю.

На гэтым тыдні вы зможаце паглядзець наступныя матчы зборнай Беларусі:

10.04. Беларусь—Швейцарыя — 21:30;

12.04. Беларусь—Галандыя — 21:30 (другі і трэці перыяды);

14.04 Беларусь—Латвія — 21:30 (другі і трэці перыяды).

**БОКС**

Баксёр першай паўсярэдняй вагі Сяргей Быкоўскі адзіны з беларусаў, стаў бронзавым прызёрам першынства кантынента ў Вайне (Данія). Алімпійскія ліцэнзіі заваявалі таксама Вадзім Мязга (другая паўсярэдняя вага) і ў суперцяжкой катэгорыі Сяргей Ляховіч.

**МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА**

Толькі Яна Батыршына з Масквы апярэдзіла беларускае трыа на міжнародных спаборніцтвах у польскім Шчэціне. На другім месцы чэмпіёнка свету Ларыса Лук'яненка, на трэцім — экс-чэмпіёнка Таццяна Агрызка, на чацвёртым — будучая чэмпіёнка Яўгенія Паўліна.

**АЎТАСПОРТ**

Англічанін Дэйман Хіл выйграў трэці раз запар этап чэмпіянату свету ў класе машын "Формула-1". Ён на 12 секунд апярэдзіў канадца Жака Вільнёва, свайго партнера па камандзе "Вільямс Рэно". Услед за Вільнёвым на фініш прымчаўся Жан Алезі ("Бенетон Рэно") з Францыі. Гэтыя трое лідзіруюць у агульным заліку: Хіл — 30 ачкоў, Вільнёў — 12, Алезі —10. Чэмпіён свету Міхаэль Шумахеру пакуль не шанцуе, ён зноў сышоў з трасы з-за тэхнічных непаладак.

Другі этап чэмпіянату свету па аўтаралі закончыўся, як і першы, перамогай фінскага пілота Тома Макінена са штурманам Сэпа Хар'яне. Гонкі праходзілі ў неспрыяльных кліматычных і дарожных умовах на тэрыторыі Кеніі.

**МОТАСПОРТ**

Вядомы ў Італіі матагоншчык Марка Гарнэлі разбіўся падчас адной з гонак чэмпіянату сваёй краіны. Другі матацыкліст — Маўра Мастрэлі — знаходзіцца ў шпіталі ў цяжкім стане.

**ГОРНЫ ВЕЛАСІПЕД**

З гораў спускаюцца не толькі на лыжах, але і на роварах. Хутчэй за іншых гэта робіць француз Эрык Барон. На трасе ў французскіх Альпах ён паказаў хуткасць 200 км/г. Днём раней іх гэтая суайчынніца Карын Дзюбушэ спусцілася на лыжах з гор з больш высокай хуткасцю — 225,1 км/г.

**ВЕСЛАВАННЕ**

Студэнты Кэмбрыджскага універсітэту выйгралі "дуэль" у калегаў з Оксварду ў гонцы экіпажаў-васьмёрак. Гэты матч праводзіцца ўжо 142-гі год запар. Апошнія чатыры разы мацнейшымі аказаліся хлопцы з Кэмбрыджу.

**ШАХМАТЫ**

Пераможцы Міжнароднага турніра ў Амстэрдаме чэмпіён свету Гары Каспараў (Расія) і балгарын Весялін Тапалаў згуляюць у лістападзе матч з шасці партыяў з прызавым фондам 80 тыс. долараў ЗША.

**ХРОНІКА**

Стала вядома, што Палестына ўпершыню будзе прэзентавана асобнай самастойнай камандай на Алімпійскіх гульнях.

Сямён ПЛОЦ

## Дарагія сны вартаўнікоў

**3,5 тысячы норкавых шкурак коштам звыш 1 мільярда рублёў скрадзена ўначы са складу калгаса "Зара" Магілёўскага раёну.**

Цікава,што склад знаходзіўся ў некалькіх метрах ад будкі вартаўнікоў, а замкі з дзвярэй злодзеі здымалі аўтагенам. Усё роўна праспалі...

Іван ЗАСАДА

## Мэблю і каўбасы ратуюць ад паводкі

**На мінулым тыдні на Гродзеншчыне пазбавіліся лёдавай паверхні ўсе малыя рэкі, а таксама частка Нёмана.**

Паколькі ў Слоніме і Гродне частку дамоў можа затапіць вадою, іхнія жыхары лепшую мэблю і прадуктовыя прыпасы здалі на склады, якія ахоўваюцца міліцыяй. Астатнюю мэблю і майно мясцовыя ўлады ўзялі на ўлік, каб эвакуяваць на выпадак, калі паводка сапраўды будзе вялікай.

С.А.



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 45.000 (1-шы завод – 40.600)
Нумар падпісаны ў друк 09.04.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 10 Заказ 230